

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 15(349) | 22 КРАСАВІКА 1998 г.

## Яны б'юць не толькі ляжачага, яны б'юць нават мёртвага

Стан беларускай мовы на Беларусі крытычны. Сфера ўжытку яе рэзка звужаецца. Пры гэтым тэмпы звужэння гэтай сферы набылі катастрафічны характар. Супрацьстаяць знішчэнню беларускай мовы практычна няма каму. Асобныя выспы беларускасці з усіх бакоў падмываюцца акіянам расейшчыны. У гэтай сітуацыі Міністэрства адукацыі начале са сваім міністрам выступіла з ініцыятывай заканадаўча замацаваць разгром беларускай мовы, беларускай школы, беларускай культуры.

У палату прадстаўнікоў унесены праект закона "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь" "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Праект прадугледжвае пазбаўлення беларускай мовы статуса адзінай дзяржаўнай мовы. Чыноўнікам з Міністэрства адукацыі, мабыць, не зусім камфортна нішчыць беларускую школу, парушаючы Закон. Таму яны вырашылі пазбавіцца ад закона нязручнага і займець зручны, у якім дзяржаўнымі будуць дзве мовы беларуская і расейская, а дакладней і практычна адна расейская, бо там будзе запісана права выбару. А права ў нас належаць ізноў жа чыноўніку, а не чалавеку. Чыноўнік выбера, ён ужо выбраў. Падмацаваны законам ён будзе дабіваць бедную нашую мову нават тады, калі не застанецца ніводнай беларускай школы, ніводнага беларускага класа. Чаму ? Хіба чыноўнік не беларус ? Чыноўнік на Беларусі можа і беларус па пашпарту, але ён чыноўнік каланіяльнай, акупацыйнай адміністрацыі. Імперскія акупанты плацяць яму грошы і ён іх адрабляе. Пры гэтым, чым чысцейшы ён беларус, тым больш старанна адрабляе. Расеец можа сачкануць. Расеец на Беларусі прадстаўнік метраполіі, ён можа не напружвацца. За яго яго справу зробіць беларус, якому трэба кожны дзень даказваць, што ён "рюсків".

Палата прагаласуе. Там таксама чыноўнікі, якія хочуць быць "рюскімі". Яны таксама служаць імперыі.

Прэзідэнт падпіша.

Народ прамаўчыць.

І што далей ? Паміраць ?

А трасцы ! Мы ўсвядомілі, што мы калонія ? Усвядомілі. Усвядомілі, што трэба змагацца за нацыянальнае вызваленне? Усвядомілі !

Імперыя не пакідае нам выбару. Мірнага суіснавання быць не можа. Нацыя падымаецца. Краіна з архіпелагу беларускасці ператвараецца ў мацярык, а сённяшнія душыцелі беларускай мовы захлынуцца ў так мілым ім гнілым балоце расейшчыны.

***Станіслаў Суднік.***

## Марыянеткавы "нацыянальны сход" збіраецца нішчыць беларускую мову.

### Ухвала Сойму БНФ "Адраджэньне"

У парадак дня "чацвёртай сесіі палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу" уключана 112 пытанняў. Несумненна, рашэнні па іх будуць прымацца без дыскусіяў і ў строгай адпаведнасці з загадамі Лукашэнкі. Сярод іншага, "палатнікі" збіраюцца канчаткова адабраць у беларускай мовы статус адзінае дзяржаўнае мовы нашай краіны, змяніўшы Закон аб мовах адпаведна вынікам антызаконнага рэферэндуму 1995 года. Лукашэнка правёў гэты рэферэндум тады, калі наша мова ў статусе дзяржаўнай толькі-толькі пачала аджываць пасля двухсотгадовага акупацыйнага ўціску.

Паколькі "нацыянальны сход" не з'яўляецца законна выбраным парламентам, усе ягоныя рашэнні нелегітымныя. Таму не будуць мець юрыдычнай сілы з моманту прыняцця і рашэнні па п.34 парадку дня "сесіі" аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Маецца на ўвазе замацаваць у законе "роўнасць" дзвюх моваў.

Што разумее рэжым пад фіктыўнай "роўнасцю беларускай і расейскай моваў", мы пабачылі за апошнія тры гады. Дзяржаўная лінія на задушэнне беларускае мовы і перaслед беларускамоўных грамадзянаў працягваецца. Гвалтам зачыняюцца беларускамоўныя класы ў школах і групы ў дзіцячых садках. Беларуская мова выкараняецца з універсітэтаў, выціскаецца з сродкаў масавай інфармацыі, з гандлю. Беларускамоўныя грамадзяне фактычна не маюць права зносінаў з дзяржаўнымі структурамі на сваёй роднай мове. Само маўленне па-беларуску, як знак нязгоды з рэжымам, служыць матывам міліцэйскіх затрыманняў.

Такая палітыка ёсць складовай часткай стратэгіі знішчэння беларускай нацыянальнай самабытнасці, культурнай адметнасці і гістарычнай памяці, якую мэтадычна праводзіць рэжым крамлёўскага стаўленіка Лукашэнкі. Канцовая мэта гэтае стратэгіі — знішчэнне нашай дзяржавы і інкарпарацыя Беларусі ў адноўленую расейскую імперыю.

Мы заклікаем усіх грамадзянаў краіны, нягледзячы на любыя антызаконныя рашэнні ўладаў, не паддавацца на ўціск, бараніць сваё святое права гаварыць, пісаць, вучыць дзяцей па-беларуску. Нагадваем тым, хто ўдзельнічае цяпер у антыбеларускай кампаніі, аб непазбежнай маральнай і судовай адказнасці за здраду свайму народу.

*11 красавіка 1998 г. г.Менск.*

**Гэтыя палату не чакаюць**

## РЭХА

..."Наша слова" з першых нумароў рабіла вялікую справу — дапамагала адраджэнню беларускай мовы. Матэрыялы па мовазнаўству, літаратуразнаўству, гісторыі, літаратуры і культуры заўсёды былі змястоўнымі, цікавымі і карыснымі і для выкладчыкаў і для простых аматараў.

Рэдакцыя змагла сабраць добры аўтарскі калектыў — што ні асоба, то, ці пісьменнік, ці прафесар. Усе — зоркі на нашым літаратурным небасхіле.

Гэтую справу спрабуеце працягваць і Вы. Але, як казаў паэт, "час прамінуў і нядоля на народ, нібы камень, звалілася". Умовы жыцця і існавання нашай мовы змяніліся. А Вы працягваеце пець старую песню. Зоркі нашы засталіся на небасхіле. Ім, пэўна, не захочацца спускацца з Алімпа, заглянуць у глыбінку, пацікавіцца, чым і як жывуць гэтыя людзі.

Сёння газета ператварылася ў вузкаэлітарнае выданне гуртка ці клуба аматараў беларускай мовы, якія пішуць для сябе і выдаюць сябе і для сябе. Бо 500, хай тысяча чытачоў — гэта не аўдыторыя.

Такое могуць дазволіць сабе хіба толькі багатыя людзі, члены якога-небудзь клуба на Захадзе. Там і не такое дазваляюць.Але тут — не Захад ж.

Паверце, сп. Суднік, што пісаць мне аб гэтым цяжка і балюча. Балюча глядзець, як Вы нібы пасярод пустыні, крычыце, спрабуеце дакрычацца да народа.

А Вам, на маю думку, трэба тэрмінова мяняць і стратэгію, і тактыку. І адзін Вы гэтага зрабіць не зможаце. Трэба каб Рада ТБМ спусцілася з Парнаса і раз'ехалася па раёнах і дапамагла аднавіць суполкі. Раней гэтую справу рабілі райкамы. А цяпер іх няма. Запрацуюць суполкі, з'явяцца і чытачы і падпісчыкі газеты. Я спрабаваў дапамагчы Вам іншым чынам — надрукаваў заметку аб узноўленым выхадзе "Нашага слова" у раённай газеце. Вынік — невялікі.

Але і гэтага мала. Рэдакцыі трэба, на маю думку, працягваючы сваю папярэднюю тактыку, — друкуючы сур'ёзныя матэрыялы (без іх газета страціць свой сэнс), расшыраць і свой пазаштатны карэспандэнцкі актыў. Такіх карэспандэнтаў у Вас трэба мець па некалькі ў раёне. Хай не ўсе будуць актыўнымі. Хай кожны напіша раз у 2 месяцы і у Вас будзе куча матэрыялаў з глыбінкі заўсёды. І для матэрыялаў гэтых трэба мець хоць адну старонку у кожным нумары, псіхалогія чытача з глыбінкі такая, што ён у першую чаргу, нават у сталічнай газеце, шукае матэрыялаў аб сваім раёне. І кароткія, змястоўныя, жывыя заметкі чытаюцца з цікавасцю. Гляньце на "Народную волю". Яна ніяк не можа вылезці з 50 тысячнага накладу, бо, на маю думку, друкуе пераважна вялікія, сур'ёзныя матэрыялы. А гэта — на аматара. А "Навіны" з кожным нумарам набіраюць наклад.

І працаваць Вам з пазаштатнымі карэспандэнтамі трэба сур'ёзна. Ім трэба дапамагаць. А паўтары тысячы на марку (канверты можна зрабіць і у рэдакцыі) — ні вельмі грошы. Паверце мне, старому графаману, што надта не хочацца пісаць "на деревню дедушке". Пішаш, пішаш і не ведаеш, куды дзеліся тыя лісты — ці не дайшлі, ці трапілі у кошык.

Прабачце, калі ласка, за рэзкі тон гэтага ліста. Але пісаў я яго з адным шчырым жаданнем — дапамагчы Вам у Вашай справе.

Поспехаў Вам!

***З павагай Фурсовіч, г. Докшыцы***

## Весткі з сядзібы ТБМ.

— Так і не з'явілася электраэнергія ў сядзібе ТБМ, якая была адключаная па рашэнні ЖРЭА Партызанскага раёна (старшыня Фёдар Якімаў). Прычына простая — няма сродкаў.

— ТБМ атрымала судовую пастанову, паводле якой павінна заплаціць за арэнду памяшкання звыш 70 млн.рублёў. Вялікая запазычанасць склалася ў выніку драконаўскай максімальнай платы за арэнду — 10 даляраў за кв.метр. Таварыства шукае спонсараў, гатовых дапамагчы. Наш разліковы рахунак: 3015212330014 код 764 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска.

— За апошні месяц адбыліся дзве чарговыя паэтычныя сустрэчы ў музеі Я.Купалы. На суд слухачоў вынеслі свае творы паэты Яўген Гузок і Алесь Бадак, барды Алесь Галіч і Сяржук Мінскевіч. Сустрэчы вяла Людміла Дзічэвіч. За мужнасць і адвагу былі ўганараваныя дыпломамі і медалямі "Пагоня" з занясеннем у кнігу гонару "Рупліўцы твае Беларусь" :

журналісты: Анатоль Мільгуй, Алесь Мікалайчанка

навуковец: Язэп Якушкевіч

журналісты: Павел Шарамет, Ірына Халіп, Аляксандр Старыкевіч, г.рэд. газеты "Народная воля" Іосіф Сярэдзіч.

Узнагароды ўручыў старшыня Камітэта ўшанавання Анатоль Белы.

— Працягваецца падрыхтоўка да Рэспубліканскай Рады ТБМ, на якой будзе прааналізаваны стан беларускамоўнай адукацыі ў ВНУ. З 70 беларускіх ВНУ Таварыства атрымала адказы толькі ад дзесяці: Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, Гарадзенскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута, Полацкага універсітэта, Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага унэверсітэта, Віцебскага дзяржаўнага універсітэтата, Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны.

— Змяніўся рэжым працы сядзібы . Нягледзячы на эканамічны ўціск, памяшканне адчынена з 9 — 14; 15 — 19 гадзінаў.

**Запрашаем у ТБМ !**

## Дзень добры, паважаная рэдакцыя газеты "Наша слова".

Вырашыў напісаць гэты ліст, таму што бачу, цяжка беларускай мове ў цяперашнім часе. Зневажаюць яе з усіх бакоў, не жадаюць каб яна была сапраўды народнай.

Зусім нядаўна купіў Вашу газету ў кіёску і адразу "праглынуў" яе, таму што няшмат сапраўды беларускамоўных газет, якія распавядаюць аб нашай Бацькаўшчыне, яе сапраўдным становішчы ў палітычным і культурным жыцці.

Зараз нас вымушаюць адыходзіць ад матчынай мовы і культуры нашай краіны, але ж я спадзяюся, што мы сваім шляхам прыйдзем да таго, каб ушанаваць нашу Беларусь так, як яна таго заслугоўвае. Да свайго сораму не вельмі добра размаўляю на беларускай мове. Таму вельмі моцна спадзяюся, што з дапамогай беларускамоўных газет змагу сапраўды адчуць сябе беларусам.

Сярко Уладзімір
Навучэнец ліцэя № 1 г. Брэст.

# Такое здараецца хіба што раз у жыцці

**"... Нельга не адзначыць настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Церабліцкай дзевяцігодкі са Століншчыны Надзею Паўловіч, якая выхавала трэцяга прызёра спаборніцтваў Наталлю Наскевіч, "мова якой па-добраму нават здзівіла строгае журы".**
**... У гісторыі базавых школ такое здараецца хіба што раз у жыцці".**
***(Абласная газета "Народная трыбуна" №№ 3,7 за 17.01. і 14.02.1998 г.).***

Церабліцкая базавая школа размясцілася ў маляўнічым кутку Палесся за 60 кіламетраў ад чыгункі. Побач — рака Мостава, за ёй, як акінуць вокам, лясны масіў. На школьным двары растуць рэліктавыя дрэвы — "сосны Веймутава", — завезеныя з Польшчы на пачатку стагоддзя, з гладкім ствалом (як у рабіны) цёмнашэрага колеру і доўгімі тонкімі іголкамі. У хуткім часе (задумка дырэктара) цэлая алея гэтых высакародных пірамідальных прыгажунь аздобіць новабудоўлю школы.

Сёння педагагічны калектыў на чале з Надзеяй Міхайлаўнай Паўловіч працуе плённа і творча, без аніякага паслаблення як на драўлянае памяшканне, так і на аддаленасць ад райцэнтра ці тую ж радыяцыю. Школа — адна з лепшых сярод базавых школ вялікага раёна. Тут сапраўднай гаспадыняй пачувае сябе родная мова. Яе руплiўцы — Н.М.Паўловіч (дырэктар школы), настаўніцы Дарошка В.І., Паўловіч Г.У., Кудласевіч В.П. і інш. Выкладанне ўсіх прадметаў вядзецца на беларускай мове. Яе пачуеш і на перапынках ад вучняў, і на нарадах — педсаветах ад настаўнікаў. Без перабольшвання, сапраўды шматгранная работа па мове і літаратуры наладжваецца ў пазаўрочны час. Цікавая пошукава - краязнаўчыя заняткі з дзецьмі праводзіць здольны настаўнік гісторыі і геаграфіі Ф.М.Шпакевіч, вусны аповед аб якім пачула абласное журы ад "бронзавай" дыпламанткі алімпіяды Наталлі Наскевіч.

Дырэктар школы шчыра падзялілася з намі некаторымі думкамі.

— Перамога Наталлі на алімпіядзе — вынік шматгадовай і мэтанакіраванай працы ўсіх настаўнікаў школы па развіцці асобы вучняў увогуле і прывіцці любові да матчынай мовы і родных мясцін у прыватнасці. Добры - такі падмурак пад трывалыя веды вучняў закладваюць настаўнікі пачатковых класаў, аб чым сведчыць кантрольныя зрэзы па мове. Так, дзеці любяць мову бацькоў. Але каб заняць на спаборніцтвах прызавое месца, трэба старанна працаваць індывідуальна са здольнымі вучнямі, што мы і робім на курсах па выбары. Нашы выпускнікі пасля заканчэння Аздаміцкай СШ паспяхова здаюць уступныя экзамены ў вузы : 113 былых вучняў атрымалі прафесію педагога, добрая палавіна з якіх сталі настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры і працуюць у сваёй школе, раёне і вобласці. Мы аформілі многія цікавыя альбомы і буклеты : "Гісторыя школы", "Краязнаўчая карта раёна", "Наш знакаміты аднавяскоўвец — рэзчык па дрэве І.П. Супрунчык", "Цераблінскія прыказкі і прымаўкі", "Песні нашых бабуль", "Мясцовы абрад "Жаніцьба коміна" і інш. Стварылі фальклорны калектыў "Заранчка", пяцікласнікі склалі "Дыялектны слоўнік вёскі Цераблічы — 500 слоў" з улікам нашага "окання", сямікласнікі — "Мясцовыя тапонімы". Штогод наладжваем тыдзень беларускай мовы і літаратуры, вечары па лексіцы мовы, КВЗ, моўную гульню "шчаслівы выпадак". Цікава праходзяць вечары "Мой любімы паэт", "Паэзія Янкі Купалы ў маім жыцці". Не цураемся бібліятэчна-бібліяграфічных урокаў, якія дапамагаюць школьнікам як у правільным падборы кніг, так і ў выпрацоўцы навыкаў свядомага чытання і каментавання прачытанага тэксту.

Наталля Наскевіч коратка - коратка паведаміла пра сябе :

— Колькі сябе памятаю, столькі і люблю родную мову. Гэта, відаць, прадвызначыла маё першае месца на раённай і трэцяе — на абласной алімпіядах сярод удзельнікаў базавых школ. У лінгвістычным конкурсе мне спадарожнічаў поспех, а вось пры вусным выказвнні (як ні дзіўна ) адчувала пэўныя нязручнасці пры ацэнцы падзей і фактаў, інтэрпрэтацыі абагульненняў выказвання — напамінаў аб сабе малы жыццёвы вопыт. Удзячна маім настаўнікам, якія не шкадуюць здароўя і часу на вялікую з намі пазакласную работу па беларускай мове і літаратуры.

...На Белай алімпіядзе ў Нагана беларусы завяявалі " бронзу". Тое ж зрабіла на школьнай алімпіядзе ў Брэсце і сціплая дзяўчынка з палескай глыбінкі — Наташа Наскевіч. Дай Божа, каб такое (ды і лепшае ) здаралася яшчэ не раз у жыцці ...

**Леанід Раманенка,**
*выдатнік народнай асветы,*
*в. Рамель, Столінскі р-н*

# Беларуская мова ў нашых бальніцах

Жыццё закінула мяне пасля вясновай праступы з запаленнем лёгкіх у 6-тую гарадскую бальніцу г. Менска. Лежачы тут я вырашыў пацікавіцца станам беларускай мовы ў гэтай лячэбнай установе, дзе нават у адпаведнасці з "палепшаным варыянтам" Канстытуцыі 1994 павінны ўжывацца дзве дзяржаўныя мовы.

Абышоўшы за некалькі дзён чатыры першыя паверхі таго корпуса, куды я трапіў на лячэнне пераканаўся ў наступным:

1. Усе сцены калідораў, дзверы палатаў і кабінетаў завешаны рознымі аб'явамі, сценгазетамі, шыльдамі, размалёваныя надпісамі якія нешта паведамляюць ці забараняюць.

2. Сярод іх ёсць вельмі цікавыя. Напрыклад на дзвярах маёй палаты вісіць шыльда-аб'ява якая начынаецца такімі словамі "Уважаемые товарищи больные!" Дарэчы пра хворых таварышоў я яшчэ ніколі не чуў! Відаць, не выпадкова ў вестыбюлі стаіць вялікая абшарпаная скульптура Ільіча. На сценгазеце прысвечанай пагрозе захворвання СНІДАМ, над малюнкам прастытуткі ідзе ўжо новы зварот да былых хворых таварышоў — "Господа, зачем Вам это нужно?" На некаторых плакатах есць цытаты аб ахове здароў'я з апошняй "брэжнеўскай" Канстытуцыі СССР.

3. У вестыбюлі III паверха вісяць расклады заняткаў і практыкі для двух факультэтаў Менскага медінстытута.

4. Сярод усей гэтай інфармацыі няма ніводнага беларускага слова.

Сёння, дарэчы, увесь т.зв. "тихий час" грукаталі малаткамі ў калідоры рабочыя. Прыбівалі над старымі новыя шыльды. Вядома ж не на нашай мове.

Аднак, што мяне прыемна ўразіла, што адносіны да беларускай мовы хворых і лекараў былі станоўчыя. Акрамя мяне ў палаце было яшчэ чатыры чалавекі. З імі я размаўляў толькі па-беларуску, як і з усімі медыцынскімі сёстрамі і ўрачамі. Цікава, што ніхто з іх не выказаў ніякага здзіўлення, і неразумення майго маўлення. Наадварот, праз некалькі дзён у гаворцы са мною, яны сталі раз-пораз ужываць беларускія словы і нават цэлыя сказы.

Быў адзін цікавы выпадак, калі мяне слухалі тры студэнты-практыканты з трэцяга курса (два хлопцы і дзяўчына). Калі дзяўчына не зразумела розніцу паміж словамі "дзень" і "тыдзень", адзін з хлопцаў тут жа растлумачыў ёй сэнс гэтых слоў і перайшоў на гаворку са мной на добрай беларускай мове.

У адзін з вечароў я паклаў на столік каля сталовай некалькі дзесяткаў розных нумароў газеты "Наша слова". Праз некалькі гадзін газеты разабралі, прытым не толькі хворыя, але і медыкі.

Гэта сведчыць аб тым, што дзесяць гадоў беларускага адраджэння марна не прайшлі. Таму я прапаную сябрам ТБМ і навогул прыхільнікам беларускага слова звярнуць увагу на нашы бальніцы, збіраць невялічкія бібліятэчкі добрых беларускіх кніжак і разам з нумарамі "Нашага слова" перадаваць іх у палаты дзе ляжаць хворыя людзі. Не сумняваюся, яны будуць нам удзячныя.

***Алег Трусаў, першы намеснік Старшыні рэспубліканскай рады ТБМ.***
***Менск, 6 гарадская бальніца 2 красавіка 1998 г.***

*Жыццё арганізацый*

# Ў Баранавічах, як у людзей

Баранавіцкая арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны вядзе планавую працу па нацыянальнаму выхаванню народа. Не стала выключэннем і святкаванне 80-х угодкаў БНР.

20 сакавіка ў памяшканні Дома культуры бавайнянага камбіната Баранавіцкая Рада Таварыства Беларускай мовы імя Ф.Скарыны наладзіла святочную вечарыну.

Спачатку ўдзельнікі святочнай вечарыны праглядзелі дакументальна-мастацкую стужку "БНР — час звеставання". Гледачы ўбачылі не толькі гісторыю стварэння першай беларускай дзяржавы ў XX ст., але і пакутны лёс такіх нацыянальных беларускіхх дзеячоў як Аляксандр Цвікевіч, Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Аркадзь Смоліч.

Нягледзячы на перашкоды, як кайзераўскай Германіі, так і бальшавіцкай Расеі, летувіскіх ды польскіх нацыяналістаў, патрыёты Беларусі змаглі ў вельмі неспрыяльных умовах стварыць БНР і абвясціць яе незалежнасць 25 сакавіка 1918 года.

Пасля прагляду фільма выступілі гісторыкі і краязнаўцы горада і раёна. Сырыца В.А. паведаміў аб вытоках беларускай дзяржаўнасці. Ён прывёў грунтоўныя доказы таго, што Полацкае княства - гэта першая дзяржава на Беларусі. Прамоўца расказаў, што Вялікае Княства Літоўскае — гэта "залаты век" беларускай дзяржаўнасці і культуры. Такім чынам утварэнне БНР стала магчымым дзякуючы існаванню Полацкай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага, працяглай і шматвяковай барацьбы беларускамоўнага народа "каб быць роўным сярод роўных", "каб людзьмі звацца".

Гісторык Трухановіч Л.М. патлумачыў аб прычынах пераходу беларускіх патрыётаў ад "аўтанамістычных" ідэй да ідэі незалежнасці. Ён засяродзіў увагу ўдзельнікаў вечарыны на ўнутранай і знешняй палітыцы БНР.

Краязнаўца Бернат М.Я. спыніўся на праблемах вайсковай палітыкі дзеячоў БНР. Міхась Язэпавіч зрабіў выснову, што адсутнасць узброеных сіл БНР і неспрыяльныя знешнія фактары (першая сусветная і грамадзянская вайна ў Расеі) сталі асноўнымі прычынамі паражэння БНР.

Напрыканцы вечарыны выступіў добра вядомы ў Баранавічах і за межамі фальклёрны гурт "Фэст". Цудоўныя песні на роднай мове ўзрушылі гледачоў, якія доўгімі і працяглымі апладысментамі суправаджалі ўсе песні "фэстаўцаў".

На ўрачыстай вечарыне прысутнічала каля двухсот чалавек. Пасля святочнай імпрэзы адбылася дыскатэка для моладзі.

***Ю.Плотнікава,***
*студэнтка 2 курса Баранавіцкага недзяржаўнага эканоміка-юрыдычнага тэхнікума.*



**Павел Сцяцко**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

(Працяг. Пачатак у NN 5-7,12-14)

### *Парабак ці батрак.*

Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі слова ***батрак***, а толькі ***парабак***. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М. Байкова і С.Некра-шэвіча: "Парабак м. — батрак" (С.222). В. Ластоўскі падае: "Батрак м. наёмны работнік для сельскагаспадарчых работ; парабак (ад слова "рабіць"); найміт гаворыцца больш аб падзённым работніку..." (ПРК (б)С.С.17). Як сведчыць "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" ( Т.1.Мн., 1978.С.329,330), батрак — пазычанае з расейскай мовы, у якую яно трапіла ад татараў. У беларускіх слоўніках яно пастаўлена побач з сваім словам дзеля набліжэння да расейскай мовы. У "Русско-белорусском словаре" 1953 года нават на першым месцы: "Батрак — батрак, м.; парабак; батрацкий — батрацкі, парабкоўскі, батрачество — батрацтва, парабкоўства, батрачить — батрачыць, батрачка — батрачка, парабчанка , батрачный — батрачны, парабчанскі" (С.27). Тут слова парабкаваць нават не згадваецца, а толькі батрачыць. Праўда, наступныя перавыданні — двухтомавае 1982, 1991 і трохтомавыя 1993 і 1994 гадоў ужо на першае месца вынеслі сваё слова, а пазычанне — за ім, а слова батрачный мае эквіваленты толькі парабчанскі (РБС-82.Т.1.С.46; РБС-93.Т.1.С.77,78). У "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года і яго двухтомавым перавыданні беларускаму слову адпавядаюць два расейскія: "Парабак. -бка м. — батрак, работник (БРС-62. С.621; БРС-88. С.121), а слову парабкоўскі — тры словаўтваральныя сінонімы: батрацкий, батрачий, батраческий. У беларускай мове ёсць і намінацыя падлетка-парабка, ёю выступае ўтварэнне з суфіксам ***-ук***: ***парабчук***, якое перакладаецца на расейскую мову двума словамі: "Парабчук, -ка,м. батрак (падростак) (БРС-88.С.121).

Як бачым, усе падставы для перавагі мае сваё слова ***парабак*** — выразна матываванае як сэнсава, так і будоваю.

### Адноўнік — а не аднавіцель

Утварэнні з суфіксам ***-цель***, як ужо згадвалася, беларускай мове неўласцівыя. Расейскім лексемам з ***-тель*** звычайна адпаведнікамі выступаюць беларускія словы ( з прадметным значэннем) з суфіксам ***-нік, -льнік*** і інш.: Уловитель — улоўнік, опреснитель — апраснялльнік, разрыхлитель — разрыхляльнік і пад. Натуральным адпаведнікам рас. ***восстановитель*** ёсць беларускае ***адноўнік***. Але першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" 1953 года падае наступнае: "Восстановитель — аднавіцель" (С.71). Праўда, прыметнік ад гэтага слова не мае ў сваім складзе -цель; восстановительный — аднаўленчы. Гэта таксама сведчыць пра штучнасць скалькаванага слова ***аднавіцель***. На жаль, яго бачым у БРС-62 і БРС-88, а таксама ТСБМ (Т.1.Мн., 1977.С.157), праўда, без спасылкі на крыніцу выкарыстання. А вось "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы не падае яго, тут бачым: "Восстановитель (вещество) адноўнік" (С.123). Гэта пацвярджае і трохтомавы "Русско-белорусский словарь" 1993 года: "Восстановитель (вещество) адноўнік, -ка м., восстановительный — аднаўленчы..." (Т.1. С.214). Гэтае нормы і трэба трымацца, а не пераносіць у беларускі слоўнік штучныя формы, уласцівыя іншым мовам, як гэта робіць Тлумачальны слоўнік 1996 года (С.41), перапісаўшы артыкул з расейскіх даведнікаў. Параўн.: С.И. Ожегов. "Словарь русского языка" (М.,1982. С.89): "Восстановитель. Вещество, с помощью которого производится реакция восстановления (состава, цвета и т.п.) В. для волос" і ў ТСБЛМ (Мн.,1996. С.41): " Аднавіцель ... Рэчыва, пры дапамозе якога робіцца рэакцыя аднаўлення (саставу, колеру і пад.). А. для валасоў".

### *Кіраўніца, стырно і руль*

В. Ластоўскі адпаведнікамі рас. ***руль*** і ***кормило*** лічыць слова ***стырно***. Ён піша: "Кормило ср. — хвост вадаплава, які кіруе яго паваротамі; стырно, стырваць" (ПРК (б) С.С.278); "Руль м. часць усякага вадаплава, прыладжаная да карна (кармы), да кіраваньня вадаплавам; стырно, стыраваць, стырнік -ніца ..." (С.623). "Русско-белорусский словарь" 1953 года таксама засведчыў: "Кормило ср. стырно, руль; у кормила власти — каля стырна ўлады" (С.214). "Руль м. руль м. (кормило) стырно (С.598). Тое самае бачым і ў перавыданні РБС-82 і РБС-93. А вось "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 і 1988/89 гг. ужо кваліфікуюць слова стырно як застарэлае: "Стырно ср. уст. руль м., кормило; стырно ўлады высок. бразды правления (БРС-89. С.520). А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.5. Кн.1. Мн.,1983. С.360) не абкрадае слоўнік свае мовы, не заганяе адмысловыя беларускія словы стырно і стырнік у закутак застарэлых. У ім чытаем: "Стырно, -а, н. 1. Руль. Камбайн папыхвае дымком. Здаецца — люльку курыць. Сядзіць Аўдуля за стырном, Пад сонцам вочы жмурыць. Калачынскі. 2. пера н.; чаго або якое. Кніжн. Тое, пры дапамозе чаго кіруюць чым. -н. Дзяржаўнае стырно. Колас. Тут падаюцца як стылёва нейтральныя і словы ***стырнаваць*** 'кіраваць стырном'; ***стырнава***, ***стырнік*** 'чалавек, які кіруе стырном на судне і пад.".

У жывой народнай мове з значэннем ***'руль'*** (веласіпеда, аўтамабіля і пад.) выкарыстоўваецца слова ***кіраўніца*** (тое, чым кіруюць). Гл.: П.Сцяцко. Дыялектны слоўнік (З гаворак Зэльвеншчыны.Мн., 1970. С.78, 79): "Кіраўніца, -аў ж. Руль (веласіпеда). От навучыўсё егдзіць. Ногі на кіраўніцу і бяз рук ездзя.Гр.".

Сучасныя тэрміналогіі слоўнікі таксама карыстаюцца адмысловымі беларускімі словамі: "Руль І. (обш.) — кіраўніца; руль II (морск.) стырно" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С.183).

# Чорны боль Беларусі

**Уладзімір Караткевіч**

**Дзяўчына пад дажджом**

*Верш напісаны 20 красавіка 1960 года*

Над лесам, над садам дзікім
Дожджык забалбатаў,
І успыхнулі раптам гваздзікі
У нетрах абмытых траў.
Цёплыя кроплі скачуць
Па залацістай лазе;
Дожджык — "царэўна плача",
Сонца ў кожнай слязе.
З нізкай цёплай адрыны,
Учуўшы ласкавы капёж,
Ў лёгкай сукенцы дзяўчына
Выбегла проста пад дождж.
Кроплі яе цалавалі
Палка, пяшчотна, да слёз,
Вусны дзяўчыны хапалі
Срэбра з ясных нябёс.
Дожджык зрабіў сваё цуда,
Ён абляпіў, як мог,
Плечы, маленькія грудзі,
Гнуткія лініі ног.
Бэзам з садоў павявала,
Вечна хацелася жыць.
Дзяўчына ад шчасця спявала.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Стронцый быў у дажджы.



**Генадзь Бураўкін**

А пад раніцу глуха зямля задрыжала,
І вятрыска не змог мерны гул пагасіць —
Па маўклівых прасеках, палянах, прагалах
Праімчалі задыханым статкам ласі.

Хто ім значыў у шэрым тумане дарогі ?
Што на ногі ўзняло іхні кемлівы род ? ..
Аб старыя яліны ламаючы рогі,
Гнаў важак іх няспынна на ўсход і на ўсход.

У празорлівым воку ягоным сышліся
Вечаровыя здані і пачварныя сны:
Двухгаловыя рыбы, аблезлыя рысі
І сляпыя бяздзюбыя бацяны.

Ён інстынктам спрадвечным высочваў сцяжыны,
Ад знаёмых азёр ласянят адганяў,
Вёў і вёў у дрымучыя нетры чужыя,
Быццам гналася следам ваўкадаваў гайня.

Не даваў передыху няўцямнаму спеху,
Хоць халоднай расой спакушала трава,
Вечнай памяццю продкаў адчуваў небяспеку,
Ад нязнанай пагрозы статак свой ратаваў,

Нёс па лесе
На капытах
Чарнобыльскі пыл
І Чарнобыльскі страх ...

## З хронікі бяды

... Перазвоньваліся начальнікі:
— Што чуваць ?
Што казаць ?
Што рабіць ? ..
— Вы галоўнае там —
без панікі.
Не надумайцеся трубіць ...

— На палях — трактары
і людзі.
Пасяўною занята сяло ...
— А што будзе, тое і будзе.
Толькі б панікі не было !

— Ходзяць чуткі ...
— Спыніць рашуча !
— Кажуць фізікі ...
— Абвяргаць !

І галоўнае — не накручваць
І залішне не думаць ...
маць !..

... Над загадамі і сакрэтамі,
Быццам зрэбныя ніткі бяды,
Працягнуліся між кабінетамі
Тэлефонныя правады.

А ўжо стома гняце свінцова.
А ўжо ў горле засохлым
пяршыць.
І падумаць бы, як не прамову,
А жыццё сваё завяршыць ...

Трубка стала пераграваццa,
Як гарматнае джарала:
— Што вы лезеце з радыяцыяй ?!
Толькі б панікі не было !!!

# СЛЕД КАТАСТРОФЫ

Дзесяць гадоў Рэспубліка Беларусь жыве ва ўмовах глабальнага радыеактыўнага забруджання, абумоўленага выбухам ядзернага рэактара на Чарнобыльскай АЭС 26 красавіка 1986 года. Гэты дзень падзяліў для краіны час на дзве эпохі — да і пасля Чарнобыля.

Чарнобыльская катастрофа — буйнейшая па сваіх маштабах тэхнагенная катастрофа з усіх, якія калі-небудзь мелі месца на планеце. Яе радыяцыйнае крыло закранула практычна ўсё паўночнае паўшар'е. Яна выклікала з'яўленне дасюль невядомай масавай катэгорыі бежанцаў — экалагічных. Па іх ліку да чарнобыльскай катастрофы могуць быць прыроўнены толькі войны. У лексікон людзей трывала ўвайшлі такія словы, як кюры, бекерэль, радыенукліды, доза апрамянвання, радыеактыўнае забруджанне земляў, утрыманне радыеізатопаў у прадуктах харчавання і арганізме чалавека, радыецэзій і радыестронцый,плутоній і многія іншыя, што выкарыстоўваліся раней дастаткова вузкім колам спецыялістаў.

Найбольш шырокі і чорны след пакінула катастрофа на зямлі Беларусі. Вучоныя да гэтай пары спрачаюцца, якая ж колькасць радыенуклідаў была выкінута ў навакольнае асяроддзе ў выніку выбуху ядзернага рэактара. Па самых сціплых падліках яна параўноўваецца з эфектам ад выбуху двух дзесяткаў атамных бомб.

У выніку аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі з рэактара, які ўтрымліваў 190,2 тоны ядзернага гаручага, у навакольнае асяроддзе было выкінута каля 4 тон адпрацаванага паліва (10 18 бекерэляў радыенуклідаў ёду, цэзію, цэрыю, барыю, стронцыю, плутонію і іншых ізатопаў без уліку высакародных газаў). Радыенукліднаму забруджанню падверглася, па сутнасці, уся тэрыторыя Беларусі.

У першапачатковы перыяд значнае павышэнне магутнасці экспазіцыйнай дозы гама-выпрамяньвання рэгістравалася практычна ўсюды. Асалівую небяспеку, з прычыны актыўнага ўключэння ў біялагічныя ланцугі, уяўляў ёд-131. Узроўні забруджання радыеактыўным ёдам у многіх рэгіёнах былі настолькі высокія, што пачатковы перыяд апраменьвання вельмі вялікай колькасці людзей кваліфікуецца спецыялістамі як перыяд "ёднага ўдару".

У цяперашні час радыяцыйнае становішча вызначаецца ў асноўным радыеізатопамі цэзій-137, стронцый-90,плутоній-239,240. Плошча тэрыторый, дзе шчыльнасць забруджвання цэзіем-137 перавышае 37 кБкм2, складае 46,45 тыс.км2.Трэба падкрэсліць, што да чарнобыльскай катастрофы забруджванне дадзеным ізатопам тэрыторыі рэспублікі за кошт глабальных выпадзенняў складала 1,5 — 1,9 кБк/м2.

Забруджаннымі аказаліся больш 18 тыс.км2 сельскагаспадарчых угоддзяў (22%), з якіх 2,64 тыс. км2 давялося выключыць з гаспадарчага абароту.

Шкода нанесеная рэспубліцы чарнобыльскай катастрофай ацэньваецца ў 32 дааварыйныя гадавыя бюджэты ў разліку на 30-гадовы перыяд.

Маштабы катастрофы патрабавалі прыняцця надзвычайных мер.

У маі 1986 года было эвакуявана 11,4 тыс. жыхароў 50 населеных пунктаў 30-км зоны Брагінскага, Нараўлянскага і Хойніцкага раёнаў Гомельскай вобласці. Усяго ў рэспубліцы на працягу 1986 года было эвакуявана 24,7 тыс. чалавек. На сённяшні дзень з зон забруджання ў чыстыя раёны краіны переселена амаль 130 тыс. чалавек, у тым ліку 84,3 тыс.чалавек з зон першачарговага і наступнага адсялення.

***Паводле І. Кеніка***

*Генадзь Бураўкін*

**ПЕРАСЯЛЕННЕ**

Вось і прымусіў
Раскуты,
Раз'юшаны атам
На развітанне расстайнае
Кланяцца пуням і хатам,
Кланяцца студням,
Дрывотням,
Тынам,
Азяродам,
Зазелянелым садам
І засеяным агародам.

Вось і настала пара
Развітацца
З сабакам
І з пеўнем,
Гэткім вясёлым,
Чырвонабародым
І спеўным,
Моўчкі пагладзіць —
Ці ўдасца пабачыцца зноўку ?
Дужа слухмяную,
З чорным цяляткам,
Кароўку ...

Нехта галосіць.
А нехта бязладна ляпеча ...
Бабка ж Аўдоцця
Ніяк не расстанецца з печчу.
Перамаўляецца з ёй
напаўголаса,
Нібы з жывою,
І да ляжанкі хінецца
Сваёю сівой галавою.

— Як жа ты будзеш адна,
Без мяне,
Мая любка ?
Ты ж не пліта,
Не камін,
Не буржуйка,
Не грубка.
Я ж цябе
Толькі сухімі дрывамі
Паліла
І перад святамі
Свежаю крэйдай
Бяліла.
Столькі гадкоў
Мы жылі з табою
Дружна і міла.
Ты мяне грэла,
Карміла,
Не дужа дыміла.
І засланіла не раз
Перад смерцю самою.
І засталася
Са мною
Сяброўкай маёй
І сям'ёю.
Мужа забіла вайна,
А блакада дзяцей загубіла.
У галадуху
Радню ўсю
Забрала магіла.
Толькі з табой
І падзелішся
Скрухай і горам.
Мы і паплачам удзвюх,
І паскардзімся,
І пагаворым.
А вось цяпер
І зусім
Дзякую
Адна я.
Хто будзе з нас шчаслівейшы,
І бог сам не знае.
Перахрышчу я,
Дазволь,
Цябе тройчы
На ростань
І абагрэю
Здавён прыхаванай
Бяростай ...

Двор свой пакінула бабка
Спакойна і смела.
Толькі з аўтобуса
Доўга
На родную вёску глядзела.
Бачыўся ёй
Пачарнелы ад часу дамок
І, як дыханне,
Над комінам
Сіні дымок.

*Рыгор Барадулін*

**ЖАЛОБА**

Пасля Чарнобыльскае
навалы
На Беларусь прыпала
Сем — з дзесяці —
Хірасім.
Хапіла ўсім.

Атам
Зрабіў Беларусь
удавою.

А ва ўдавы
Не зачыняюцца хлявы,
Павыпушчана гавяда.
Статак пасвіць бяда.
А ва ўдавы
Някошаны паплавы
І пожні някошаны.
Госці запрошаны
З ласкі бяды.
На Дзяды.

Маўклівы кат
Не мыліць пятлі.

На нашай зямлі
Ці паўторыцца наш
працяг ?
Ці ў жарстве
захаваецца след ?

Як стронцый трашчыць
У нашых касцях,
Ці чуе свет ?

**МАЛІТВА НАСТУПНАСЦІ**

Хай свеціцца імя Твае,
Беларусь,
У стронцыі, цэзіі, ліціі !
Як і ва ўсе вякі,
Душу быць ласкавай
змусь,
Дазволь слязам,
Ужо радыёактыўным,
Ліцца.

Хай свяціцца імя Твае,
У палыновым вянку
Гаратніца.
Хай цвіце твой дзядоўнік
Калючы, таму што
безабаронны.

У цябе на слыху
перагукваюцца
Радыяцыя і радаўніца.
Чакаючы ў гнёздах буслоў,
Дагніваюць на ліпах
бароны.

Хай свяціцца імя Твае,
Маці Сумная !
Хмару радыеактыўную
Хусцінай ад Бога
Ты на самыя вочы
насунула —
Не чуеш, не бачыш
Нічога.

*Віктар Шніп*

**1 МАЯ 1986 ГОДА**

На выцвілых сценах хрушчоўскіх дамоў
Вісяць, як у Храме іконы, партрэты.
І людзі глядзяць на часовых багоў
Без яўнай пашаны. І толькі паэты
Чытаюць узнёслыя оды ў эфір —
Ім грошы заплацяць, што выйшлі на свята.
У цеснай кватэры пракіслы кефір
Смакуе стары, даядае салату.
Глядзіць тэлевізар і злосна плюе:
— Якая няпраўда! Якая халтура!
А горад, нібыта здурэлы, пяе
І хваліцца свету адсталай культурай.
За сценкаю жонка пры смерці ляжыць —
А лекаў няма і, гавораць, не будзе.
А над Беларуссю са смерцю дажджы ...
Якое вы свята святкуеце, людзі?!
Ідуць піянеры: "Трыбунам салют!"
Стаяць на трыбунах іудавы ўсмешкі.
І сеецца стронцый на родны наш кут,
Да могілак з траў праразаюцца сцежкі.
І ў жылах ад сонца бунтуецца кроў ...
Ідзём па праспекце за сцягам
чырвоным ...
На выцвілых сценах хрушчоўскіх дамоў
Партрэты вісяць, як у пекле іконы.

№ 15(349) 22 КРАСАВІКА 1998 г. Наша слова

# ЗЕЦЕЛЬСКАЯ СТАРОНКА

## Дзятлаву 500 гадоў

### Мая Дзятлаўшчына

Паміж Навагрудкам, Лідай, Мастамі, Зэльвай, Слонімам і Баранавічамі раскінулася мая радзіма, мой мілы сэрцу куток. Калісьці на гэтай зямлі жылі яцвягі і славяне. Гэта мае продкі. Але мала што захавалася ад тых часоў. Няма ўжо ні возера Зьято, ні замка першага ўладара Кастуся Астрожскага, па рацэ Дзятлаўка ўжо ніхто не асмельваецца на лодках дасягнуць Балтыйскага мора, паразбураліся многія курганы, а вельмі шмат іх засталося недаследаванымі. Зямля захоўвае маўклівых сведак сваей старажытнасці — гарадзішчы, капішчы, могілкі, паселішчы — і чакае ... Чакае неабыякавага даследчыка, хто змог бы прыадкрыць на мінутку таямнічасці зяцельскай старонкі, адказаў бы на шматлікія пытанні: чаму Зецела стала Дзятлавам, калі сапраўды заснаваны горад — у 1498 годзе ці на 2 стагоддзі раней, што знаходзіцца у шведскіх магілах, які лёс краю ў гады Рэчы Паспалітай, Расейскай імперыі, як знявечылі жыцці дзятлаўчан віхуры рэпрэсій, вір калектывізацыі. І трэба было б запісаць вялікі пласт народнай творчасці, што дыяменцікамі раскаціўся па вёсках мясцовых. І трэба спяшацца, бо знішчаюцца прыродай і чалавекам і курганы, і гарадзішчы, адыходзяць у нябыт людзі. І няма ўжо той цёткі Броні ў Погірах, што ведала і спявала некалькі сот народных песняў, і выветрываюць гады з памяці драбніцы жыцця Ігнася Дварчаніна, доктара філасофіі, дэпутата польскага Сейма, вязня польскай турмы, якога бальшавікі абмянялі на палітзняволеных з СССР, каб потым у 1933 годзе арыштаваць як нацдэма і расстраляць у 1937 годзе. Калі прыйдзе той даследчык, і адкуль ён будзе? Можа з Баравікоў, куды ўсе ездзілі на фэсты, можа са Студзераўшчыны, песеннай, шчодрай на таленты, а можа з Краглёў, з-пад самога вялікага на Дзятлаўшчыне таямнічага Дзікага возера. Можа, гэта будзе хтосьці з тых удзельнікаў забастоўкі 1965 года, калі вучні Дзятлаўскай беларускай школы № 2 адстойвалі сваё права вучыцца ў новай, іхнімі рукамі пабудаванай школе, такой прываблівай для сынкоў мясцовага начальства, вучняў прывіляванай рускай школы.

Іх ўсіх, хто не забыўся пра родны кут, хто гатовы даследаваць свае карані, і збірае зараз Асацыяцыя "Зецела - 500", створаная летам 1997 года. Сябры Асацыяцыі — Міхась Чарняўскі, Вадзім Лакіза, Пётр Русаў — старшыня, Людміла Дзіцэвіч — займаюцца падрыхтоўкай свята "Зецела-500", якое адбудзецца гэтым летам, канферэнцыі "Старажытны наш край", падрыхтоўкай выданняў, прысвечаных Дзятлаўшчыне, зборам артыкулаў, невядомай інфармацыі, арганізацыяй сустрэч. Два гады назад адбылася сустрэча ўраджэнцаў Дзятлаўшчыны, мяркуецца новая.

Хацелася, каб хоць цяпер, праз 500 гадоў пасля заснавання Зецелы, ажылі, загаварылі шматлікія захавальнікі мінулага — мясціны, дрэвы, рэчкі, азёры, каб знікалі белыя плямы з гісторыі гэтага краю, каб мы маглі пакінуць нашчадкам грунтоўны летапіс, бо напісанае — застаецца. І шчыруюць мясцовыя краязнаўцы, журналісты, карэспандэнты раённай газеты "Перамога", каб прыадкрыць яшчэ адзін лапічак нязведанага. Пётр Русаў выдаў кнігу пра археалагічныя помнікі Дзятлаўшчыны "Спатканыя ў дарозе", сумесна з паэтам Віктарам Шымуком падрыхтавалі зборнік песень "Зецельская старонка", збірае мясцовыя паданні і легенды.

Гісторыка-культурная асацыяцыя "Зецела-500"
220102 г. Мінск, вул. Будаўнікоў, 5/25
Тэл. (8-0172) 43-61-22




History and caltural association "Zetela-500"
220102 Minsk, str. Budaunikow, 5/25
fone (8-0172) 43-61-22




Спадзяемся, што гэтая Зецельская старонка ў газеце прыцягне ўвагу многіх гісторыкаў, археолагаў, паэтаў, настаўнікаў, дзяржаўных дзеячоў, вучняў і студэнтаў, бацькоў, хто памятае свае дзятлаўскія карані. З інфармацыяй, паведамленнямі, прапановамі звяртацца па тэл. 43-61-22; 33-25-11.




**Людміла Дзіцэвіч**, намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы, ураджэнка в.По-гіры Дзятлаўскага р-на.

### Дзятлава, старажытнае Зецела.

Дзятлаўскі раён знаходзіцца на паўднёвым усходзе Гарадзенскай вобласці, на левабярэжжы цячэння ракі Нёман. Раён адносіцца да гісторыка-этнаграфічнага рэгіёна Беларусі — Панямоння, якое займае Гарадзенскую, часткова Берасцейскую і Менскую вобласці. На ўсходзе Дзятлаўскі раён мяжуе з Навагрудскім, на поўначы — з Лідскім, на захадзе — з Мастоўскім, на поўдні — з Зэльвенскім і Слонімскім раёнамі Гарадзенскай вобласці, на паўднёвым усходзе — з Баранавіцкім раёнам Берасцейскай вобласці. Геаграфічнае размяшчэнне побач са старажытным Навагрудкам і Слонімам адбілося на гісторыі раёна. У гэтым годзе святкуецца 500-годдзе раённага цэнтра — Дзятлава.

У Дзятлава здаўна склаліся два цэнтры: замак і рынак. Замак упершыню ўпамінаецца ў 1498 г. З ХУІ па ХУІІ стст., ён значыцца як двор, уласнае валоданне з сядзібай. У тэксце Інвентара, складзенага ў 1580 г. "двор Здзетело, Зецельскі" знаходзіўся за ракою, паблізу якога жылі Мінец Мельнік, Якім Півавар вольны, Пашук і Сямён Ключнік. На месцы замка, на левым беразе ракі Дзятлаўчанкі, быў пабудаваны ў 1751 г. палац, які захаваўся да нашага часу.

Археалагічныя даследванні культурнага пласта дазволілі акрэсліць межы і таўшчыню культурных напластаванняў горада. Разнастайнасць прадметаў сведчаць, што ў гэтым месцы ў ХУІ ст. мог знайходзіцца замак, які быў абкружаны абарончым ровам, а з ХУІІ-ХУІІІ ст. з'явіліся палацы, ўзведзеныя ў той час чарговымі ўладальнікамі Дзятлава: князямі Сапегамі і Радзівіламі. Гэта быў арыстакратычны цэнтр мястэчка.

Непадалёк мясціўся другі старажытны цэнтр, дзе знайходзіўся рынак, Рынкавая плошча. Тут і сёння ўзвышаецца помнік архітэктуры — касцёл Успення Багародзіцы, пабудаваны ў 1648 г. і двухпавярховыя дамы, ўзведзеныя па ўсходняму яе боку ў ХУІІ-ХІХ ст.ст. У тым жа інвентары ўказваецца шэраг вуліц: Соменная, Памарайка, Гальшанская, Дворная, Замкавая. Да нашых дзён, што з'яўляецца харак-тэрным для часоў савец-кай улады, назвы вуліц не захаваліся, так як бальша-віцкія вызваленцы "осчастливили" горад іх перайменаваннем, як і самое мястэчка. Гэтымі дзеяннямі пастараліся як бы абмежаваць гісторыю краю, адкідваючы тым самым нашую мінуўшчыну.

Дакладных звестак аб ранняй гісторыі самога Дзятлава не захавалася. Але іншы раз невядомыя старонкі адкрывае навука аб геаграфічных назвах — тапаніміка. У Іпацьеўскім летапісе, ў запісе пад 1253 г., апавядаецца аб сутыкненні галіцка-валынскіх войскаў пад кіраўніцтвам князя Данілы і войск Літвы, беларускага войска, якое і перамагло прышэльцаў:"... и послаша сторож Литвы на озеро Зьято. И гнаша через балота (галіцка-валынскае войска. Аўт.) реки Шчары !"

Касцёл Успення Багародзіцы ў г.Дзятлаве

Гэтыя радкі летапісу дазволілі вучонаму А.П.Непакупнаму, які вывучаў беларускія і літоўскія назвы ў Дзятлаўскім раёне, прыйсці да высновы, што возера Зьято павінна была знайходзіцца каля Дзятлава. У сярэдневяковых дакументах Дзятлава пісалася інакш — Зецела ці Здзятел, а суфікс -ел (а) ўжываецца толькі ў тым выпадку, калі ля вытока альбо ў вусці ракі было возера. Падмацоўвае гэтае меркаванне і назва сучаснай вёскі Засецце, якая ўпамінаецца таксама ў тым жа інвентары. Вёска Засецце атрымала назву ад яе размяшчэння адносна Дзятлава, на што ўказвае прыстаўка "за". Інакш кажучы, Засецце — гэта тая вёска, што знайходзіцца за канкрэтным геаграфічным аб'ектам: за балотам Сецце, якое ўпаміналася ў сярэднявечным дакуменце і рэшткі якога захаваліся да нашага часу паміж Дзятлавам і вёскай. Магчыма, з тых часоў і пачалася гісторыя гэтага мястэчка. Передавы атрад "сторож" пасланы Міндоўгам мог заснаваць умацаванне, альбо яно там існавала. Гэтую думку падмацоўвае наступнае. Першыя вядомыя пісьмовыя звесткі аб Зецеле, што адносяцца да 1498 г., засведчылі перадачу Вялікім літоўскім князем Аляксандрам паселішча з воласцю ва ўласнае валоданне Канстанціну Іванавічу Астрожскаму, прадстаўніку вядомага княскага роду, з правамі закладкі горада і замка. Передача вядомага ў той час паселішча сведчыць аб тым, што яно даўно існавала.

Гэты край быў спрадвеку населены, аб чым сведчаць археалагічныя помнікі: паселішчы і курганы. У некалькіх кіламетрах ад Дзятлава, каля вёскі Саннікі, знайходзіцца гарадзішча "Талерка". У мясцовага насельніцтва існуе паданне пра гэтае гарадзішча. Памеры яго і сэнс падання сведчыць аб рытуальным прызначэнні гэтага помніка ў старажытныя часы. На захад ад гарадзішча месцяцца вёскі Дукрава і Студзераўшчына (Студзяроўшчына) і самая высокая ў гэтым месцы Калечая гара, на якой узгрувашчваюцца курганы. Народная памяць і пра яе захавала паданне. Існаванне на невялікай тэрыторыі комплекса тапонімаў у назвах якіх заключаны абрадавы і рэлігійны сэнс, сведчыць аб магчымасці знаходжання ў даўнейшыя часы на гары Калечая мясцовага паганскага свяцілішча.

***Пётр Русаў. Менск.***

***Мікола Грышан***
*Дзятлаўскі раён*

Хто з нас ідзе: мы ці гады,
А ўсё адно на сэрцы
заўжды скруха,
І нат няважна,
што станецца тады,
Калі жыццёвая
замоўкне завіруха.
А сіл няма імгненне запыніць:
Жыццё ніяк не ведае застою,
З нас кожнаму
дано яго пражыць,
Каму імкліва, а каму ў спакоі.
А час кладзе на нас
адметны цень,
Бо наўсяго яго мы толькі дзеці,
І кожны намі пeражыты дзень
Імгненнай зоркай
у бязмежжы свеціць.
І хоць у вечнасці
распыліцца наш след,
Але з надзеяй
мы наперад рушым,
Што нашых сэрцаў
непаўторны свет
Камусьці
хоць на міг
зацепліць душу.

* * * *

Мы ўранні пакідаем дом,
Як птушаняты гнёзды на суках.
Імчымся галавы на злом,
Не чуючы на сэрцы страх.
Упоўдзень супыняем бег,
Каб новых сіл набрацца
для хады,
Тчом баразну, не робячы агрэх,
Сплятаючы ў ланцуг гады.
І калі сонца схіліцца на сад,
Зрабіўшы свой кругаварот,
Тады аглянешся назад,
Ад стомы запаволіш ход.
І дзіву не дасіся анічуць,
Што бурнай рэчкаю
сплылі гады,
І можа толькі
прыйдзецца пачуць:
— Я быў калісь
таксама маладым.

**На дварэ Мяцеліца**

З кнігі "Зецельская старонка"
***Верш В. Шымука***
***Музыка П. Русава***

На дварэ мяцеліца,
Коней шпаркі бег.
Верыцца не верыцца —
Еду да цябе.

***ПРЫПЕЎ (2 разы)***
Еду да каханачкі,
Да сваёй красы.
Вы спявайце, саначкі,
Грайце, палазы.

На дварэ мяцеліца,
Белы снегавей.
А дарога сцелецца
Ўсё далей, далей.

***ПРЫПЕЎ (2 разы)***

Снегам запарошана
Голле на вярбе.
Да цябе, харошая,
Еду, да цябе.

***ПРЫПЕЎ(2 разы)***

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 20. 04. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова №1170.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.